ВЯЛІЗНАЕ ЦЯРПЕННЕ



ДЛЯ ПЫТАННЯ ЛУКАШЭНКУ

СТАР. 3

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

НА ТЫСЯЧУ РУБЛЁЎ

ШТО МОЖНА КУПІЦЬ




СТАР. 4–5

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

23.12.11-4.01.12 г.


# ДЖЫП З ЛЯДОЎНЯЙ ДЛЯ ЧЫНОЎНІКАЎ

**"Выйсце ў нас адно – эканоміць, эканоміць і яшчэ раз эканоміць", – гаварыў днямі Аляксандр Лукашэнка. Аднак у кожнага сваё ўяўленне пра ашчаднасць.**




*Хто ірвецца за танным малаком, а хто – за новымі джыпамі*

## ЯК ГЭТА – ЖЫЦЬ ПА СРОДКАХ…

У інтэрнэт трапіў ліст Мінаблвыканкама да аўтадылераў, у якім чыноўнікі паведамляюць пра намер тэрмінова набыць 10 джыпаў, ды не абы якіх. Патрабаванні да камплектацыі змяшчаюць дзясяткі пазіцый, сярод якіх скураны салон, двухзонны клімат-кантроль і міні-лядоўня.

Ужо шмат месяцаў Аляксандр Лукашэнка звяртаецца да суграмадзян з заклікам жыць па сродках. Апошні раз гэты тэзіс прагучаў 15 снежня на нарадзе па імпартазамяшчэнні, дзе кіраўнік краіны патрабаваў суцэльнай эканоміі. Аднак выглядае, што скараціць свае патрэбы мусяць выключна простыя беларусы, а вось "слугі народа", нягледзячы на крызіс, працягваюць жыць з размахам.

Так, на пачатку траўня губернатар Берасцейшчыны Канстанцін Сумар памяняў сваю Toyota Land Cruiser на Audi A8 L. Нагадаю, што ў гэты час валюту ў краіне цяжка было знайсці нават днём з агнём, і ўсё ж такі гэта не перашкодзіла Сумару выдаткаваць каля 100 тысяч еўра на навюткае аўто.

Гэтая навіна хутка разляцелася па Беларусі, аднак ніякага асуджэння з боку кіраўніка дзяржавы такая пакупка не выклікала. І чынавенства зразумела, што набыццё раскошных аўтамабіляў за дзяржаўныя грошы Лукашэнка грахом не лічыць.

Менавіта таму старшыня Мінаблвыканкама Барыс Батура ніколькі не сумеўся, калі журналістка "Камсамольскай праўды" запыталася ў яго пра джыпы павышанай камфортнасці. Падаём фрагмент гутаркі.

*— Да, мы объявили тендер на 10 машин. Это для председателей райисполкомов, а не облисполкома. И это те предприятия, те райисполкомы, у которых машинам от 7 до 10 лет. И для того, чтобы выполнять функции, председателю или исполкому в целом транспорт нужен. В вашем вопросе слышится предвзятость. Что ему, пешком ходить? Ну, хорошо, выпишем мы каждому по лошади. А вы на чём ездите, можно задать вопрос?*

*— Хожу пешком или езжу на трамвае, — адказала журналістка.*

*— Вы ходите пешком? Но сюда, на эту пресс-конференцию, вы приехали наверное, на машине.*

*— Нет, на метро.*

*— Для того, чтобы потребовать с человека или с руководителя выполнять те функции, которые на него возложены, ему надо создать условия. И мы эти условия будем создавать, но повышая требовательность к исполнению своих служебных обязанностей. Я ничего не вижу в этом страшного, и мы будем покупать за счёт бюджета эти машины.*

## ПЕРАСАДЗІЦЬ НА "САМАНДЫ"

Натуральна, якая праблема выдаткаваць з казны самае меншае 350 тысяч долараў на джыпы для старшыняў райвыканкамаў? Ім жа трэба стварыць умовы! Вось толькі ўзнікае шэраг пытанняў.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

# СТУДЭНТАЎ-БЮДЖЭТНІКАЎ БУДЗЕ ЯШЧЭ МЕНШ

**А на гістфаку БДУ студэнтаў можа зусім не застацца.**

"Такая тэндэнцыя ў апошні час. Скарачаецца агулам набор на гістфак. І колькасць платнікаў, якія прыходзяць да нас у БДУ таксама зменшылася", -- расказвае Еўрарадыё дэкан гістарычнага факультэта БДУ Сяргей Ходзін.

Дэкан дадае, што гэта не навіна. У мінулым годзе скарачэнне набору на гістарычны факультэт ужо было. Там і колькасць платнікаў скарачаецца. Затое ад беларускамоўнага аддзялення пакуль не адмаўляюцца. І нават плануюць адсвяткаваць яго 20-годдзе.

"У мінулым годзе ў нас ужо было скарачэнне на бюджэт, ужо скарачалася колькасць платнікаў. Бюджэтнае скарацілася на сем чалавек. А платнікаў набралі недзе 80, альбо 70% ад плана".

Калі ўлічыць, што на першы курс гістфаку сёлета набралі чатыры групы па 20 чалавек, то скарачэнне колькасці студэнтаў за год на 10-12 чалавек даволі адчувальнае. Дэкан гістфаку лічыць, што тут не толькі дэмаграфічны фактар, але і сацыяльны. Бацькі проста не маюць грошай, каб вучыць дзяцей у Мінску.

**АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ, HTTP://EURORADIO.FM**

# ЦІ ВЕРЫЦЕ ВЫ Ў КАНСТРУКТЫЎНЫ ДЫЯЛОГ БІЗНЕСУ І ЎЛАД?

**АДАМ ГЛОБУС, ПІСЬМЕННІК, ВЫДАВЕЦ:**

## “ЦІ МОЖНА ПАВЕРЫЦЬ У ТОЕ, ШТО САБАКА І КОТ БУДУЦЬ СЯБРАВАЦЬ?”

— Ці можна паверыць у тое, што сабака і кот будуць сябраваць? У мультфільме — так, у рэальнасці — не. Бо адзін нараджаецца мышкай, а другі — казлом; адзін нараджаецца сабакам, а другі — коцікам. І дзяржава будуецца па тых жа самых прынцыпах прыроды. І калі ў казцы заклікаюць усіх сябраваць, абдымацца і цалаваць адно аднаго, то гэта выдатна, толькі вельмі далёка ад рэальнасці. Бізнес як творчая ініцыятыва заўсёды апярэджвае дзяржаву. Дзяржава прымае законы пасля таго, як нешта зроблена. Ініцыятыўны чалавек заўсёды рызыкуе, таму што ён ідзе ў нязведанае. Як мастак, як пісьменнік — у нязведаныя сферы, дзе раней ніхто не бываў. Бізнес — гэта тая ж самая творчасць. Узяць тыя ж паслугі, якія прапаноўвае інтэрнэт: дзяржава толькі ідзе следам з вялікім спазненнем са сваім заканадаўствам. У нас асноўныя бізнесмены — чыноўнікі.

**ЛЮДМІЛА БАГДАНОВІЧ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА (ГОМЕЛЬ):**

## “ГЭТА “ЮДЭНРАТАЎСКІ” ДЫЯЛОГ?”

— Ці канструктыўны дыялог у гета паміж юдэнратам і нацыстамі? Канечне, канструктыўны. І ён, у прынцыпе, на карысць людзям. Яны абмяркоўваюць нейкія важныя рэчы для людзей: па колькі кавалкаў мыла выдаваць, каму ісці на работу, а каму пара і ў яму збірацца; каб людзі не штурхаліся, а станавіліся роўненька ў чэргі… Паляпшэнне ўнутранай сітуацыі ў гета заўсёды на карысць людзям. Вось такі канструктыўны дыялог і адбываецца зараз паміж бізнесам і ўладай. Каб “вашывых блох” не адразу вынішчылі і абскублі, а крыху далі пажыць; прабашляць на які хакей, быць вечна ўдзячнымі за тое, што ў лагер адправілі не цябе, а твайго калегу… Вось толькі да рэальнага дыялогу свабодных, актыўных пісьменных людзей (якімі, па ідэі, з’яўляюцца бізнесмены) з выбарнай, законнай уладай наконт узаемавыгаднага супрацоўніцтва сённяшні “юдэнратаўскі” дыялог не мае ніякага дачынення. Але, безумоўна, нармальны бізнес, які плаціць падаткі ў казну, павінен супрацоўнічаць з кантралюючымі органамі, каб адсочваць несумленных гульцоў, якія, ухіляючыся ад падаткаў, і дзяржаве шкоду наносяць, і канкурэнтам.

**ПАЗІЦЫЯ**

**Канструктыўны дыялог прадпрымальнікаў і кантралюючых органаў ідзе на карысць эканоміцы Беларусі. Такое меркаванне выказаў карэспандэнту БелТА старшыня прэзідыума Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва і Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і работадаўцаў Уладзімір Карагін.**

**Дзелавая супольнасць рэспублікі з 2010 года мае магчымасць знаёміцца з каардынацыйнымі планамі праверак кантралюючых (наглядных) органаў на кожнае наступнае паўгоддзе. Такія планы на першае паўгоддзе 2012 прадстаўлены зараз на афіцыйным сайце Камітэта дзяржаўнага кантролю, які каардынуе іх разам з іншымі кантрольнымі і нагляднымі органамі. Прадпрымальнікі азнаёміліся з гэтымі планамі і зараз ведаюць, калі да іх прыйдуць з праверкай.**

**АЛЯКСАНДР ТАЛСТЫКА, АКТЫВІСТ АБ'ЯДНАННЯ “ЗА СВАБОДНАЕ РАЗВІЦЦЁ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА”:**

## “МЫ ГАТОВЫ РАЗМАЎЛЯЦЬ, ТОЛЬКІ ПА-СУР’ЁЗНАМУ”.

— З 2008 года я прынцыпова не веру ў канструктыўны дыялог бізнесу і ўлады. Менавіта тады вельмі шмат прадпрымальнікаў і іх сяброў адседзелі ў турме, а Карагін не сядзеў. Потым ён абяцаў, як помніцца, і курс долара 4500 рублёў. Такога не адбылося. І хто такі пан Карагін? Чый ён бізнес лабіруе і абараняе? Мы за дыялог не з Лукашэнкам.

Па-першае, мы за паляпшэнне ўмоў развіцця бізнесу ў Беларусі ўвогуле, каб прыняць закон аб сярэднім і малым бізнесе.

Па-другое, немагчыма сёння стварыць такія ўмовы, пры якіх для ўсіх будзе кайф, таму што з 2012 года пачынае дзейнічаць Мытны саюз. І не адменены ПДВ (падатак на дабаўленую вартасць) для індывідуальных прадпрымальнікаў. Гэты падатак увёў Кабякоў у 2008 годзе, калі пачаліся першыя страйкі прадпрымальнікаў. Яго яшчэ ніхто не адмяніў. Нібыта адна мытная прастора, а ПДВ распаўсюджваецца толькі на прадпрымальнікаў з Беларусі. Гэта велізарныя грошы з нашай кішэні!

Вось калі заўтра пан Карагін абвесціць, што адмянілі гэты сумны падатак, то, магчыма, прадпрымальнікі і прадстаўнікі Руху за свабоднае развіццё прадпрымальніцтва будуць гатовы сесці за стол перамоў. Таму што мы гатовы размаўляць, але размаўляць па-сур’ёзнаму. Бо гэтае “бязмежжа” нас дастала.

**ГАЛІНА КРАЎЦЭВІЧ, МЕНЕДЖАР:**

## “БІЗНЕС-КЛІМАТ АПОШНІМІ ГАДАМІ СТАЎ ЗНАЧНА ЛЕПШЫ”.

— Наконт канструктыўнага дыялогу сказаць не магу, але адно заўважыла: працаваць апошнімі гадамі стала лягчэй. Праверак стала менш; лягчэй стала кантактаваць з падатковай інспекцыяй — на цябе ўжо не глядзяць, як на “вашывую блаху”, якую трэба абавязкова вывесці на чыстую ваду. Падаткавікі могуць і падказаць, і пракансультаваць, ніхто асабліва не “кашмарыць”. Бізнес-клімат значна пацяплеў. Калі гэта плён дзейнасці пана Карагіна, дык хвала яму і пашана.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**




*Бізнес-план – пэўна, у нас апошняя рэч для паспяховага прадпрымальніцтва*

# ДЖЫП З ЛЯДОЎНЯЙ ДЛЯ ЧЫНОЎНІКАЎ

*Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1*

Па-першае, лагічна было б перасадзіць кіраўнікоў раёнаў на прадукцыю айчыннага вытворцы. Не, не на МАЗы і БелАЗы. Калі хто забыўся, якраз на тэрыторыі Мінскай вобласці выпрабляюць "Саманды". Хай бы на іх і ездзіў Батура разам з падначаленымі, а то ў нас наракаюць на грамадзян, што аддаюць перавагу імпарту. Лукашэнка наогул абвінавацiў пакупнікоў іншамарак у валютным крызісе, а тут прадстаўнікі ўлады марнуюць вялізныя грошы (ды не ўласныя, а дзяржаўныя") на тое ж самае.

Па-другое, ці абавязковая ў аўтамабілі лядоўня для належнага выканання службовых абавязкаў? Зразумела, старшыні райвыканкамаў — вытанчаныя натуры, аднак мо неяк абыдуцца без гэтай опцыі? І як скураны салон у параўнанні з велюравым уплывае на каэфіцыент карыснага дзеяння чыноўнікаў?

Асабліваe замілаванне выклікае ўпэўненасць Батуры ў тым, што беларускія журналісты на прэс-канферэнцыі ездзяць на аўтамабілях. Акрамя іншага, гэта сведчыць пра тое, што губернатар перабольшвае ўзровень дабрабыту сваіх суайчыннікаў. Патрыманы аўтамабіль у сучаснай Беларусі, канешне, ужо (ці пакуль што) не раскоша, аднак да запытаў чыноўнікаў звычайным грамадзянам яшчэ далёка.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ПЫТАННЕ ЛУКАШЭНКУ

23 снежня прайшла вялікая прэс-канферэнцыя А.Лукашэнкі для сродкаў масавай інфармацыі.

"Тут і цяпер" пацікавілася ў некаторых уплывовых людзей беларускага грамадства, пра што яны запыталіся б у Лукашэнкі, калі б з'явілася такая магчымасць.



*Уявіце – Вы і мікрафон*

## АСАБІСТАЕ ПЫТАННЕ АД ПРАФЕСАРА АЛЕГА МАНАЕВА

Стваральнік Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (зарэгістраваны ў Вільнюсе) прафесар **Алег Манаеў** кажа, што, хутчэй за ўсё, задаў бы Лукашэнку пытанне асабістага характару.

— Паколькі не так даўно я быў зачэплены пэўным чынам, то запытаўся б аб тым, што ён зрабіў, калі даведаўся праўду, — дзеліцца думкамі Алег Цімафеевіч. — Праўду пра тое, што я жыву не ў Вільнюсе; што ўсё жыццё працую ў Белдзяржуніверсітэце, а не за мяжой; што перад прэзідэнцкімі выбарамі і пасля іх НІСЭПД, атрымліваючы мільён шышак з усіх бакоў, у тым ліку амаль ад усіх прадстаўнікоў беларускай дэмакратыі, насуперак усім гаварыў, што ён выйграе. Ніводнае слова, што прагучала з яго вуснаў на мой адрас і на адрас НІСЭПД, не адпавядала рэчаіснасці. Таму і запытаўся б, як ён адрэагаваў, калі даведаўся праўду.

## ПРА ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ АД ЛЮДМІЛЫ ГРАЗНОВАЙ

Палітык са стажам **Людміла Гразнова** перакананa, што перад усімі беларусамі стаіць адно вельмі важнае пытанне — адмена смяротнага пакарання.

— Таму я сказала б яму: "Памілуйце!" — гаворыць Людміла Мікалаеўна. — Разумееце, усе людзі перад Раством і Новым годам чакаюць прымірэння, памілавання, заспакаення і ўсякай іншай ласкі, якая павінна быць асабліва ў гэты час, тым больш у Беларусі. Ніякіх пытанняў Аляксандру Лукашэнку я больш не задавала б, паколькі сёння стаіць пытанне аб жыцці і смерці двух хлопцаў, пакараных за тэракт у метро. А ўсё астатняе, мне здаецца, не такое важнае...

## ДАРЭЧЫ

### НЕКАТОРЫЯ МОМАНТЫ З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ А.ЛУКАШЭНКІ

**Як перадае Служба маніторынгу БАЖ, Аляксандр Лукашэнка даў прадстаўнікам СМІ некалькі парад**

**...ПРАГЛЯДАЦЬ РАСІЙСКІЯ КАНАЛЫ**

На пытанне журналісткі «Белгазеты», ці не нудна яму глядзець беларускае тэлебачанне, дзе няма плюралізму, якога, да прыкладу, стала болей на расійскім тэлебачанні, прэзідэнт адказаў, што задаволены БТ: *«Мне БТ глядзець нясумна, я прэтэнзій не маю».*

*«Столькі было плюралізму, ажно дамовіліся да зрынання дзеючай улады. Болей плюралізму не трэба. Калі чагосьці не хапае на беларускім тэлебачанні, дапоўніце яго расійскім»*, — раіць Лукашэнка.

**...НЕ ПАРУШАЦЬ ЗАКОН**

Журналістка «Народнай волі» Марына Коктыш пацікавілася ў Лукашэнкі, як ён даведаецца, што «народ яго больш не хоча», калі ў краіне няма свабоднага тэлебачання, незалежных сацыялагічных службаў і дзейнічае новы закон аб масавых мерапрыемствах.

Лукашэнка ад прамога адказу ўхіліўся, зазначыўшы: *«Большасць прагаласуе, тады заўтра Лукашэнкі не будзе».*

**...ЖАРТАВАЦЬ, НАЙПЕРШ, ПРА СВАІХ ПРЭЗІДЭНТАЎ**

На пытанне Віталя Зыблюка з «Еўрапейскага радыё» аб цэнзуры жартаў пра Лукашэнку на расійскім тэлебачанні прэзідэнт адказаў: *«Хай яны жартуюць са сваіх — Пуціна і Мядзведзева».*

## ПРЫНЦЫПОВАЕ АД СЯРГЕЯ КАЛЯКІНА

Лідар Беларускай партыі аб'яднаных левых "Справядлівы свет" **Сяргей Калякін** гаворыць, што не задаў бы ніводнага пытання цяперашняму кіраўніку дзяржавы.

— Так, я б ні пра што не пытаўся. Ён жа ўсё роўна ніколі праўду не скажа, дык навошта пытаць? — тлумачыць сваю пазіцыю Сяргей Іванавіч. —Ні прынцыповых пытанняў, ні сваю пазіцыю я агучваць не стаў бы. Пра важныя рэчы адказу не атрымаеш, а задаўшы адно пытанне, пачуеш у адказ зусім іншае. Я гэта ўжо праходзіў, таму гуляць у такія гульні больш не хачу.

## ВОСТРАЕ АД СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА

Першы кіраўнік незалежнай Беларусі **Станіслаў Шушкевіч** дакладна ведае, што сказаў бы Лукашэнку ў вочы.

— Скажу шчыра: я не хачу трапляць на гэтую прэс-канферэнцыю, — кажа Шушкевіч. — Для таго каб слухаць Лукашэнку, трэба мець вялізнае цярпенне.

А што наконт пытанняў, то запытаўся б прыкладна так: "Калі ты пакаешся, выпусціш палітвязняў і сыдзеш з пасады, каб не губіць выдатны беларускі народ і краіну?"

**А якое пытанне задалі б А.Лукашэнку вы, паважаныя чытачы?**

**МАРЫНА МІТ**

## ВІНШУЕМ УСІХ ЧЫТАЧОЎ З НАДЫХОДЗЯЧЫМІ СВЯТАМІ – РАСТВОМ І НОВЫМ, 2012, ГОДАМ!

# ШТО МОЖНА НАБЫЦЬ ЗА ТЫСЯЧУ РУБЛЁЎ У МІНСКУ, МАСКВЕ І КІЕВЕ

"Тут і цяпер" праверыла, якую пакупніцкую здольнасць мае сёння наша купюра 1000 рублёў (альбо адзін рубель, як кажуць у народзе) у трох сталіцах — Мінску, Маскве і Кіеве.




*Савецкаму рублю цяпер застаецца непрыкрыта зайздросціць*

**Тысяча беларускіх рублёў**, паводле курса Нацбанка, адпавядаюць амаль 4 расійскім рублям, альбо, калі быць дакладным, **3 рублям 80 капейкам**.

Па курсе Нацбанка **адна ўкраінская грыўня** практычна адпавядае **1 тысячы беларускіх рублёў** (дакладна — 1050).

## БУЛЁН З ВАНІЛІНАМ

У звычайнай харчовай краме ў спальным раёне мінчаніну ці госцю сталіцы з тысячай рублёў у кішэні практычна няма чаго лавіць. Не тое што хлеба, а і булачкі з макам на гэтыя "шалёныя" грошы набыць вы не зможаце. Таксама тысячы не хопіць ні на паўлітра малака, ні на глазураваны сырок, ні на мінералку, ні на адну сасіску… Словам, прасцей пералічыць, на што хопіць.

За тысячу рублёў або нават і за меншую суму можна набыць: пластыкавы кубак, бутэльку або кантэйнер для салаты, фасовачны пакет, самы танны булённы кубік, пакецік ванііну або ванільнага цукру. Умоўна гэтай сумы хопіць і на 1 яйка, але насамрэч вам яго не прададуць, хіба што ў кулінарыі, але ўжо звараным. Хопіць на 1 вельмі малы яблык, 100 г кіслай капусты, на пару бульбін або 2-3 невялічкія морквы. Усё.

Не, калі вельмі пашанцуе, то на тысячу ў сталоўцы можна набыць 50-грамовы кавалачак хлеба. Больш нічога вы не купіце, нават рулон туалетнай паперы. Замест яе можаце набыць вучнёўскі сшытак (12 старонак) альбо, скажам, якую-небудзь рэспубліканскую газету. Калі апошняя вам не спадабаецца, то гары яна гарам — нездарма ж на тысячу рублёў можна набыць ажно пяць пачкаў запалак.

Дзе вы зможаце разгуляцца на тысячу, дык гэта ў аддзеле канцтавараў альбо ў кіёску "Белсаюздрук", які завалены ўсякімі дробязямі. Газеты, стрыжні для аўтаручак і самі ручкі, тонкія сшыткі і вокладкі для іх, тачылкі, алоўкі, грыфелі, заколкі — во колькі цікавых рэчаў маюць цэннік да тысячы!

**Таксама 1000 рублёў хопіць на тое, каб…**

…набыць білет на электрычку (2 зоны) або праехаць 1 прыпынак (3-4 км) у прыгарадным аўтобусе;

…прагаварыць паўгадзіны па стацыянарным тэлефоне або столькі ж па мабільным, прасядзець 15 хвілін у інтэрнэце ў пунктах калектыўнага карыстання;

…прыдбаць на будаўнічым кірмашы некалькі самарэзаў;

…набыць канверт з маркамі для адпраўкі па Беларусі;

…набыць 50 г корму для хамячка або марской свінкі.

> "Дзе вы зможаце разгуляцца на тысячу, дык гэта ў аддзеле канцтавараў альбо ў кіёску "Белсаюздрук", які завалены ўсякімі дробязямі".

**ДА ВЕДАМА**

**Дэнамінацыі ў Беларусі адбываліся ў 1994 (выкраслілі адзін нуль) і 2000 гадах (прыбралі тры нулі). Сёлета яшчэ да сваёй адстаўкі старшыня Нацбанка Пётр Пракаповіч заяўляў, што дэнамінацыя ўжо, у прынцыпе, магчымая, а яго пераемніца Надзея Ермакова казала, што "пытанне па дэнамінацыі ў гэтым годзе ў нас не стаіць, а наступны год пакажа, у якіх лічбах будзе весціся разлік, колькі ў нас будзе нулёў".**

## ХУТКІМ КРОКАМ ПА МАСКВЕ

Мы прызвычаіліся ўвесь час параўноўваць узровень жыцця ў нас і "ў іх". Чаму б не скарыстаць гэты прынцып і ў дадзеных разліках?

*"Далёка ты з такімі грашыма ў Маскве не пойдзеш*, — пракаментавала нашы разлікі "маскоўская беларуска" **Таня Кравец**, якая вось ужо тры гады ездзіць на вучобу і падпрацоўку ў сталіцу краіны-суседкі. — *Лепш сказаць, якраз пойдзеш. Пешшу, бо ні на які від транспарту гэтых грошай не хопіць, адно толькі павесяліш вадзіцеля маршруткі"*.

Наўскідку Таня здолела прыгадаць у межах згаданай сумы ўсё той жа класічны набор: запалкі, сшытак, фасовачныя пакеты. Пасля доўгага шпацыру па крамах у спіс былі дабаўлены 0,5 кіло бульбы ці морквы (між іншым, агародніна ў абодвух выпадках аказалася беларускай), гузікі, гаспадарчае мыла, шпількі і ніткі для шыцця, варанае яйка, пакецік гарбаты, актываваны вугаль і саломінка для соку.

## СУВЯЗЬ ПА-КІЕЎСКУ

"Кіеўская беларуска" **Марына Амельчанка**, якая пераехала жыць ва Украіну год таму, прызналася, што час ад часу яшчэ пералічвае мясцовыя цэны на беларускія грошы. *"І толькі калі думаю, што нешта дарага атрымліваецца, адразу ўзгадваю, што і заробак у мяне цяпер іншы"*, — смяецца дзяўчына. Па нашай просьбе Марына шукала, што ў Кіеве можна набыць за 1 грыўну.

Выніковы спіс атрымаўся не тое каб вялікім, але і не такім сціплым, як маскоўскі: 1 вафелька, жвачка, шклянка семак у знаёмай бабулі, пакецік ваніліну або лімоннай кіслаты, запалкі, насоўка, заколка для








# ЖАДАЕМ ЗАХАВАННЯ АПТЫМІЗМУ І ЗДЗЯЙСНЕННЯ ВАШЫХ ПАМКНЕННЯЎ І НАМЕРАЎ!

“Сёння ж мая пенсія з усімі прыбаўкамі і дабаўкамі не перавышае 700 тысяч рублёў, даводзіцца літаральна дрыжаць за кожную тысячу”

валасоў, цэлафанавы пакет, вучнёўскі сшытак, газета, аловак, кавалак крэйды, канверт, лейкапластыр, аднаразавы пластыкавы кубак, капронавая накрыўка, 20-кілаграмовая ўпакоўка драўняных пелетаў (від экалагічна чыстага паліва ў гранулах), бамбукавыя палачкі для сушы, ад 5 да 40 хвілін мабільнай сувязі і нават… мабільны тэлефон! *“Гэта рэкламная акцыя аднаго з апаратараў,* — патлумачыла наша сувязная. — *Калі заключыць з імі дамову на год на пэўныя тарыфныя планы, то тэлефон табе як быццам абыдзецца ў 1 грыўню. Тое, што абаненцкая плата складае ад 25 грыўней у месяц, на рэкламных плакатах, зразумела, не распісваецца”.*

## ТАДЫ І ЦЯПЕР

*“За савецкім часам,* — прыгадвае цяперашні беларускі пенсіянер **Анатоль Бурлак**, — *я атрымліваў спачатку стыпендыю 45 рублёў, а потым — інжынерскі заробак 180 рублёў, пры гэтым ведаў цану кожнага рубля і мог яго патраціць, спалучыўшы прыемнае з карысным. Як цяпер памятаю: у 1986 годзе 1 рубля мне хапала на тое, каб з’ездзіць на працу і дамоў, паабедаць у завадской сталоўцы, набыць пачак цыгарэт і яшчэ па дарозе дамоў прыкупіць пару кіло бульбы. Сёння ж мая пенсія з усімі прыбаўкамі і дабаўкамі не перавышае 700 тысяч рублёў, даводзіцца літаральна дрыжаць за кожную тысячу, а хіба за яе што купіш? Мабыць, нават валідол у аптэцы не прададуць…”.*

*Спяшаемся* супакоіць Анатоля Васільевіча: у Беларусі яму на 10 таблетак валідолу тысячы рублёў якраз хопіць. Гэтак жа, як і на анальгін ці парацэтамол беларускай вытворчасці, маленькі бінт, пару кавалачкаў лейкапластыру, аднаразовы шпрыц, бутэлечку валяр’янкі, ёду або зялёнкі. А што яшчэ чалавеку трэба ў экстраннай сітуацыі? Чарка і шкварка? Забудзьцеся — тысячы рублёў не хопіць нават на мыла і вяроўку.

Зрэшты, гэта, відаць, усё ж добрая навіна.

### А ЦЯПЕР ПАРАЎНАЙЦЕ ЗАРОБКІ

**Сярэдні заробак у верасні — кастрычніку 2011 года (паводле звестак Статыстычнага камітэта СНД)**

**У Беларусі** — 2,26 мільёна беларускіх рублёў, у Мінску — Br 2,849 мільёна.

**У Расіі** — 23 467 расійскіх рублёў, або 6,172 мільёнаў беларускіх рублёў; у Маскве — 41 344 расійскія рублі, або Br 10,873 мільёна.

**Ва Украіне** — 2737 грыўней, або Br 2,879 мільёна; у Кіеве — 4072 грыўны, або Br 4,284 мільёна.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**


Тысячы не хопіць нават хамячку

# АСТРОЛАГІ І 2012 ГОД

Астролагі зрабілі не вельмі пазітыўны прагноз для Беларусі на 2012 год — прадракаюць эканамічныя складанасці, крызіс і іншыя адмоўныя моманты.

*“Тут і цяпер” пацікавілася ў некаторых вядомых людзей, ці вераць яны ў астралагічныя прагнозы і чаго чакаюць ад 2012 года.*




### ЛЮДЗІ ВЕРАЦЬ ТОЛЬКО Ў ТОЕ, ШТО ІМ ТРЭБА

**Гумарыст Яўген Крыжаноўскі** верыць у прадказанні астролагаў, але давярае і прыслухоўваецца толькі да тых прароцтваў, якія ідуць яму на карысць.

*“Калі чытаю, што Блізняты ў наступным годзе дасягнуць вялікіх поспехаў на працы, у сексе, у фінансавых момантах, то адразу веру,* — тлумачыць папулярны артыст. — *А як толькі бачу, што Блізнятам напрарочылі цяжкасці і праблемы, адразу не веру. Думаю, прыблізна па такой жа схеме чытае гараскопы кожны нармальны чалавек. Людзі вераць толькі ў тое, што ім трэба. Таму, канешне, усім — і апазіцыянерам, і людзям палітычна нейтральным, і тым, хто ва ўладзе, — хочацца, каб у наступным годзе ўсё было добра. Але “добра” ў кожнага сваё. Апазіцыя марыць, каб змянілася усё, улада — каб захаваць стабільнасць; у простых людзей адзін клопат — абы ўсё было ў магазінах і не было вайны. А ўвогуле астралогія — гэта такая штука, якой можна маніпуляваць, і людзі гэта з поспехам робяць”.*

### МОЖНА ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ ЗВЫШНАТУРАЛЬНЫЯ СІЛЫ

Бізнес-лэдзі **Жанна Грынюк** не верыць астролагам і спадзяецца толькі на сябе.

*“Новы год будзе такім, якім мы самі сабе яго самі зробім,* — пераканана яна. — *Я ўвогуле не веру ні ў якія прадказанні. Зато веру ў сілу чалавечага розуму, волі, мэтанакіраванасці. Нехта верыць у пэўныя звышнатуральныя сілы — маўляў, Бог нам усё даў. Галоўнае — выкарыстоўваць гэта.”.*

### ХАЦЕЛАСЯ Б, КАБ НАСТУПНЫ ГОД НЕ БЫЎ ТАКІМ ДУРНЫМ

Праваабаронца **Алег Гулак** і без астролагаў можа зрабіць прагноз на будучыню.

*“Сёння, напэўна, не абавязкова быць астролагам, для таго каб зрабіць прагноз на будучыню,* — гаворыць юрыст. — *Трэба толькі паглядзець, што адбываецца навокал, і можна зразумець, чаго чакаць ад будучага года, ці спадзявацца на палёгку.*

*Мне б хацелася, каб у 2012 годзе ў нашым горамадстве пачаліся нармальныя палітычныя працэсы. Я не пра рэвалюцыю зараз гавару, а пра палітыку як з’яву. Бо сёння жывога і разумнага ў так званым палітычным коле вельмі мала. А ўвогуле хацелася, каб наступны год быў не такім... дурным. Каб можна было падумаць пра сябе, адпачыць. І каб, нават не напружваючыся, адразу заўважаў: сапраўды, многае мяняецца ў лепшы бок. Пагадзіцеся, што пры ўсім жаданні пра адыходзячы год такое цяжка сказаць... Хто ведае, мо напрыканцы наступнага года мы з вамі скажам: год быў няпросты, але шмат чаго ў ім было і пазітыўнага...*

**МАРЫНА МІТ**

# ТОП-6 СПАРТЫЎНЫХ СКАНДАЛАЎ У 2011 ГОДЗЕ

Беларускія спартоўцы ў адыходзячым годзе не толькі дамагліся перамог на чэмпіянатах свету і кантынента, але і сталі ўдзельнікамі гучных скандалаў, якія ўзрушылі спартыўны свет і беларускае грамадства. Цікава, што ўсе яны прыпадаюць на травень і лістапад. Вяснова-восеньскае абвастрэнне?




*Наш Арамнаў, канешне, можа падняць і не такую штангу, але…*

**14 мая, Рым.** Мінчанка Вікторыя Азаранка гуляе чвэрцьфінальны матч супраць расіянкі Марыі Шарапавай. Пасля аднаго з розыгрышаў Віка выгуквае: "Fucking bitch!" Гэта лаянкавы ангельскамоўны выраз. На чый адрас? Шарапавай? Выхадку беларускі адразу растыражавалі сусветныя СМІ. Пазней Азаранка ў сваім Twitter'ы патлумачыла сітуацыю:

— У мяне быў вельмі сумны і цяжкі дзень. Непрыемна пакідаць корт такім чынам. Сёння падчас матча я вымавіла рэзкі каментар на свой адрас, і я не ганаруся гэтым учынкам. Але я жудасна раззлавалася на сябе. Ніколі ў жыцці не стала б абражаць апанента. Паважаю кожнага гульца ў ВТА-туры. Прашу прабачэння, калі выклікала нейкія сумневы.

**20 мая, Мінск.** На пашыранай калегіі Мінспорту і турызму кіраўнік ведамства Алег Качан раздражнёна падвёў вынік выступлення хакейнай зборнай Беларусі на чэмпіянаце свету ў Славакіі, дзе нашы занялі толькі 14-е месца:

— Яны ж прафесіяналы і павінны ўмець гуляць у хакей! Чаму іх вучыць? Шайбу забіваць? Змагайцеся! Мезін павінен бяззубым хадзіць — шайбу лавіць зубамі, не прапускаць! Абаронцы павінны з пераламанымі рукамі і нагамі на лёд выходзіць, але не даваць забіць шайбу ў свае вароты. Што за псіхалагічная абстаноўка ў камандзе? Вы ж бачылі, як гуляла зборная — з мяне смяяліся ўсе. Хоць бы бойку нармальную ўчынілі. За сваю ж краіну... Калі ўскладзеныя абавязацельствы не выкананы, то вярні гэтыя грошы ў бюджэт, аддай назад! Не ўсе, можа, працэнтаў дзевяноста. Машыну прадай, кватэру, яшчэ штонебудзь прадай…

**27 мая, Бабруйск.** На матчы чэмпіянату Беларусі па футболе паміж мясцовай "Белшынай" і мінскім "Дынама" выбухнуў "газавы" скандал. Калі на 67-й хвіліне пры ліку 2:2 бразілец Ледэсма вывеў дынамаўцаў наперад, яны кінуліся да сектара, у якім іх захоплена віталі дынамаўскія фанаты. Заўзятары з верхніх радоў спусціліся ўніз, гульцы падбеглі да самай агароджы. І тут спецназавец Уладзімір Рэцікаў націсnуў на балон са слёзатачывым газам і накіраваў яго ў гушчу людзей... Папала шмат каму. У ліку абпаленых апынулася і пяцігадовае дзіця.

У СМІ гэты выпадак атрымаў шырокую агалоску. Міністэрская праверка падтрымала дзеянні прапаршчыка Рэцікава — маўляў, самі на ражон палезлі. Але ж нічога грамадска небяспечнага футбалісты і заўзятары не рабілі. Каб пагасіць раздражненне ў грамадстве, спецназ вуснамі камандзіра магілёўскага падраздзялення Сяргея Волкава прынёс выбачэнні бацьку дзіцяці. Але не асабіста, а праз прэсу і па тэлефоне.

Праз пару месяцаў спецназ зноў прымяніў слёзатачывы газ — падчас разгону пратэстных акцый маўчання ў Мінску.

**5 лістапада, Парыж.** Чэмпіянат свету па цяжкай атлетыцы. У зборнай Беларусі адсутнічаў алімпійскі чэмпіён Андрэй Арамнаў. Ён адмовіўся ад удзелу, спасылаючыся на тое, што кіраўніцтва беларускай цяжкай атлетыкі і галоўны трэнер нацыянальнай каманды Аляксандр Ганчароў не ствараюць яму ўмоў для якаснай падрыхтоўкі. Асабісты трэнер спартсмена Міхаіл Саладар прычынай адмовы назваў вострыя бранхіт, на які перахварэў чэмпіён, і нараджэнне дачкі ў сям'і Ганчарова. У гэтым алімпійскім цыкле Арамнаў прапусціў усе тры чэмпіянаты свету. Адзіным топ-турнірам, на якім ён выступаў, быў чэмпіянат Еўропы-2010 у Мінску. Тады Андрэй перамог, але быў дыскваліфікаваны на паўгода за курэнне "траўкі".

**6 лістапада, Мінск.** Матч чэмпіянату Кантынентальнай хакейнай лігі паміж мінскім "Дынама" і "Віцязем" з падмаскоўнага Чэхава. Пасля двух перыядаў наперадзе госці — 2:1. У трэцім канадзец Плат зраўнаваў лік — 2:2. А калі да заканчэння перыяду заставалася ўсяго 44 секунды, іншы легіянер мінчукоў Обшут вывеў гаспадароў наперад — 3:2. Тут жа госці пачалі бойку, у якой саліравалі канадскія тафгаі "віцязяў" Брэнан і Тарнаскі. З трыбун на лёд паляцелі пластыкавыя бутэлькі з-пад піва. Адна прызямлілася побач з трэнерам гасцей Андрэем Назаравым. Раз'юшаны расіянін схапіў клюшку, ускочыў на лаўку і спрабаваў праз агароджу адпомсціць гледачам, а затым паказаў трыбунам непрыстойны жэст. Потым абмацярыў міліцыянтаў... У выніку Назараву прад'явілі абвінавачанне ў хуліганстве. Каб засцерагчыся ад затрымання на суткі, трэнер прынёс прабачэнні ў відэакамеру сталічнага ўпраўлення ўнутраных спраў. Яму даравалі... Новае пабоішча "віцязі" зладзілі праз два тыдні ў Чалябінску.

**11 лістапада, Дубай (ААЭ).** Тут павінна была адбыцца таварыская сустрэча футбольных зборных Беларусі і Нігера. Абедзве каманды прыбылі ў горад, але на поле не выйшлі. Кантракт на правядзенне матча з абодвух бакоў быў падпісаны. УЕФА і Афрыканская канфедэрацыя футбола згоду далі, аднак, па словах першага намесніка старшыні Беларускай федэрацыі футбола Сяргея Сафар'яна, "федэрацыя футбола ААЭ не ўзгадніла з ФІФА ўмовы правядзення гэтага матча". Спачатку гульню перанеслі на паўтары гадзіны, а потым і зусім адмянілі. Добра яшчэ, што ў беларусаў на 15 лістапада быў запланаваны матч са зборнай Лівіі, які завяршыўся ўнічыю — 1:1. А футбалісты Нігера адбылі дамоў і зусім ні з чым.

**МІХАСЬ МОШЫН**

# ПА ФАРМАЛЬНЫХ ПРЫКМЕТАХ

**У Бялыніцкім раёне Магілёўскай вобласці за кожнай так званай “абавязанай асобай” замацаваны супрацоўнік міліцыі, які штодзень правярае лад жыцця і месцазнаходжанне сваіх паднаглядных.**

Пра гэта рапартаваў на нядаўнім пасяджэнні раённага каардынацыйнага савета па выкананні дэкрэта № 18 “Аб абароне дзяцей у нядобранадзейных сем’ях” начальнік Бялыніцкага РАУС палкоўнік міліцыі Юрый Сіманаў. На сёння на ўліку ў Бялыніцкім РАУС знаходзяцца 39 абавязаных асоб, на якіх заведзены ўліково-прафілактычныя справы.

Але, як падае раённая газета “Зара над Друццю”, нягледзячы на гэты пільны кантроль, за дзевяць месяцаў бягучага года (апошнія звесткі статыстыкі) 23 “абавязаныя грамадзяніны” не выходзілі на працу без уважлівых прычын ажно 298 разоў! Статыстыка ж сведчыць і пра тое, што ўсе разам абавязаныя бацькі вінаватыя дзяржаве за ўтрыманне сваіх дзяцей амаль 600 мільёнаў рублёў. Агулам жа з іх спаганяюць толькі 47 адсоткаў сродкаў, якія яны вінны дзяржаве па разліках, але ў рэальнасці з іх няма чаго ўзяць.



*Гэткім людзям больш патрэбныя не міліцыянты*

Магчыма, супрацоўнікам Бялыніцкага РАУС трэба не толькі займацца вонкавым і адміністрацыйным наглядам за адпаведнымі асобамі, але і ўдзяляць больш увагі прафілактычнай рабоце з бацькамі, калі ёсць патрэба і перасцярога. А таксама непаўналетнім, што застаюцца без бацькоўскага нагляду і паводзяць сябе далёка не ўзорна. Цяперашні ўзровень малалетняй злачыннасці ў 3,5 разы перавышае мінулагодні паказчык. Намнога больш цяпер фіксуецца і адміністрацыйных правапарушэнняў, што былі ўчынены падлеткамі: 93 правапарушэнні сёлета супраць 75 у мінулым годзе.

> “Цяперашні ўзровень малалетняй злачыннасці ў 3,5 разы перавышае мінулагодні паказчык”

А па фармальных прыкметах уся міліцыя занята справай — ледзь ці не кожны супрацоўнік замацаваны за кім-небудзь. І што з гэтага? Нагадаем, што да гэтага часу супрацоўнікі бялыніцкай міліцыі так і не здолелі знайсці злачынцаў, якія забілі сям’ю з шасці чалавек у аграгарадку Вялікая Машчаніца яшчэ ў 2005 годзе. Магчыма, было б больш карысці, калі б міліцыянеры выконвалі сваю працу, якая прапісана для іх у Канстытуцыі і адпаведным законе, а не кідаліся на бясконцыя заданні, загады і даручэнні па ўсё новых і новых падзаконных актах, распараджэннях і дэкрэтах.

**БАРЫС ВЫРВІЧ**

# БАБРУЙЧАН ПАКАРАЛІ ЗА ПРАВАСЛАЎЕ

**У судзе Бабруйскага раёна і горада Бабруйска завяршыўся разгляд справы чатырох бабруйчан, якія на «Дзяды» хацелі памянуць рэпрэсаваных продкаў. Прысуд — 20 базавых велічынь.**

Гэта было ўжо трэцяе пасяджэнне суда. На папярэдніх суд выслухаў тлумачэнні абвінавачаных, а таксама сведкавыя паказанні супрацоўнікаў міліцыі і настаяцеля Свята-Нікольскага сабора айца Аляксандра.

З чатырох абвінавачаных у судзе на гэты раз прысутнічаў толькі Арцём Мархасёў. Яму і была зачытана пастанова: прызнаны вінаватым у парушэнні ўстаноўленага парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства (арт. 23.34 ч. 1 КаАП); налажыць адміністратыўнае спагнанне ў выглядзе штрафу на суму 700 000 тысяч рублёў (20 базавых велічынь).

Пастанова была адразу ж выдадзена яму на рукі.

У каментарах прэсе Арцём Мархасёў заявіў, што не лічыць рашэнне законным і мае намер абскардзіць яго ў вышэйстаячым судзе.

Нагадаем, што ўвечары 2 лістапада чацвёра маладых бабруйчан — Алена Толсцік, Дзмітрый Толсцік, Арцём Мархасёў і Марыя Іванова —вырашылі памянуць усіх нявінна пацярпелых у часы сталінскіх рэпрэсій, сярод якіх былі і іх сваякі.

Маладыя людзі выйшлі вечарам са Свята-Нікольскага сабора — галоўнага храма Бабруйска — з запаленымі свечкамі ў руках і адразу трапілі пад аб'ектывы людзей у цывільным. А потым да іх падышоў афіцэр міліцыі і запатрабаваў патушыць свечкі, паколькі іх дзеянні нібыта прыцягваюць увагу іншых грамадзян.

Юнакі і дзяўчаты патлумачылі супрацоўніку міліцыі, што яны здзяйсняюць праваслаўны абрад памінання продкаў і накіроўваюцца да помніка ахвярам палітычных рэпрэсій, які размешчаны непадалёк ад храма.

У адказ на гэта ўсе ўдзельнікі абраду былі затрыманы і дастаўлены ў аддзел міліцыі, дзе на іх склалі пратаколы як на парушальнікаў закона аб масавых мерапрыемствах.

Каментар старшыні Бабруйскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Віктара Бузінаева:

— Пастанова суда мяне не здзіўляе. Маглі і 30 базавых велічынь даць, і 50. Маглі і ў лес завезці... Аб законнасці ў нашай дзяржаве казаць не выпадае. Тое, што ў нашай краіне зараз робіцца, — гэта поўнае самавольства і беззаконне.

**АЛЯКСАНДР КАСЦЕША**

# ЖЫХАРЫ БАРАНАВІЧАЎ ШТУРМАМ БРАЛІ НОВЫ “ЕЎРАОПТ”

**У чаканні нізкіх цэн натоўп сабраўся яшчэ да адкрыцця.**

На цокальным паверсе гандлёва-выставачнага комплексу «Свяцілаўскі» ў Баранавічах 19 снежня адкрыўся новы магазін «Еўраопт». У чаканні нізкіх цэн натоўп сабраўся яшчэ да адкрыцця.

Каб пазбегнуць цісканіны, наведвальнікаў у «Еўраопт» запускалі партыямі, аднак ахоўнікам не заўсёды ўдавалася даць рады наплыву людзей.

Паводле падлікаў журналістаў, за некалькі гадзін «Еўраопт» наведалі больш за тысячу чалавек.

**АЛЯКСАНДР ТРЫПУЦЬКА, ІНА ГАНЧАР, «INTEX PRESS»**

# НЕПРЫКРЫТЫ ЗДЗЕК

**Усю ноч трох актывістак ўкраінскага руху Femen проста каталі па горадзе, пакуль нехта вырашаў, што з імі зрабіць.**




Адказы з прэс-канферэнцыі, якую дзяўчаты нядаўна правялі ў Кіеве. Гаворыць Аляксандра Нямчынава:

"Мы праводзілі 19 снежня ў Мінску перад будынкам КДБ акцыю. Мы правялі. Усё было нармальна, нам удалося сысці. Але думаем, што нас адпусцілі свядома, каб затрымаць пасля, каб прэса не бачыла. Мы ўзялі квіток да Гомеля, каб дабрацца да Бранска.

На аўтавакзале недзе без пяці сем да нас падышлі невядомыя людзі, шэсць чалавек, узялі нас пад рукі і пасадзілі ў машыну. Яны прадставіліся як работнікі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі. Дзяўчат пасадзілі ў серабрыстую «газель», а мяне ў чорны «мэрсэдэс».

Мяне каталі хвілін 15—20, потым перасадзілі ў іншую машыну, «альфа-рамеа» шэрага колеру. Пасля нас аб'ядналі і недзе да паловы сёмай [ранку] проста каталі па Мінску. Мы прасілі адвезці нас у РУУС, але яны сказалі, што "вы будзеце сядзець тут столькі, колькі мы скажам".

Адносіліся добра, купілі нам вады нават.

А палове сёмай вывезлі за горад, нацягнулі шапкі на вочы і перадалі нас невядомым людзям.

Нам заламалі ззаду рукі, прыціснулі галовы ўніз, а рукі звязалі такой пластыкавай штукай, якой трубы звязваюць. У мяне вось ад яе сляды.

Яны нас павезлі ў невядомым кірунку. Многа было паваротаў, прыпынкаў. Варта было падняць галаву, як адразу білі па галаве.

Яны прадставіліся прадстаўнікамі РНЕ, сказалі, што нічога не баяцца. У іх ёсць завязкі з міліцыянтамі, ва ўрадзе Беларусі. Яны ўвесь час нас абзывалі, казалі, што мы прыехалі сюды парушаць наша славянскае адзінства.

Недзе 3-4 гадзіны мы ездзілі, пасля яны вывелі нас у лес. Сказалі: "Шапкі здымайце". Мы ўбачылі 6-7 (прыкольна – 6 ці 7 ))) "сэм-восэм", как в том анекдоте) мужчын рознага ўзросту, у шапках з прарэзамі для вачэй і рота. Яны нас прымусілі распрануцца да пояса і ўзяць плакаты ў рукі.

У мяне было, здаецца, «За славянскае адзінства», а ў дзяўчат на плакатах былі свастыкі — чорная і ружовая.

Потым яны сказалі: "А цяпер здымайце ўсё ніжэй пояса". Мы вельмі напалохаліся, бо падумалі, што зараз будзе самае страшнае. Але яны нас вырашылі пабіць. Пабілі, пасля мы апрануліся, а яны кажуць: «А цяпер нахіляйце галовы». Мы нахілілі, дзяўчатам абрэзалі валасы і аблілі галовы зялёнкай.

Пасля зноў кажуць: «Ну што, сукі, вы прыедзеце яшчэ ў Беларусь?»

Потым зноў прымусілі нас распрануцца, аблілі алеем і абсыпалі пер'ем. І ўсё гэта запісвалася на камеру.

У нас забралі ўсе асабістыя рэчы.

Пасля яны 30 хвілін нас павазілі і выкінулі з машыны. Там была рэчка. Мы вельмі напалохаліся, бо баяліся, што нас утопяць. Але яны сказалі, што "вось пойдзеце і прыйдзеце ва ўкраінскае сяло, і каб болей мы вас у Беларусі не бачылі".

**Пытанне: Як вы думаеце, гэта было сапраўды РНЕ?**

**Нямчынава**: Я не ведаю, не магу нічога сказаць. Тыя людзі, што нас па Мінску вазілі (мы бачылі іх твары), сябе па імёнах называлі — Андрэй, Дзіма. А другія былі вельмі добра падрыхтаваны, твараў не паказвалі, але сказаць, хто гэта, я не магу.

* * *

РНЕ — расійская неанацысцкая арганізацыя, што ўзнікла ў 1990-х. Яе суполкі ўтварыліся і ў Беларусі. Аднак іх публічная дзейнасць скончылася на пачатку 2000-х пасля забойства яе лідара Глеба Самойлава. Лічыцца, што своеасаблівым інструктарам у суполцы быў Валерый Ігнатовіч — былы баец «Алмаза», якога пасля смерці Самойлава асудзілі за шматлікія злачынствы. Пра арганізацыю падрабязна пісалі на пачатку 2000-х.

Паэт Славамір Адамовіч у 1999-м пранік унутр арганізацыі, каб зрабіць пра яе публікацыю ў «Нашай Ніве». Неўзабаве пасля той публікацыі яго да крыві збілі двое ў пад'ездзе дома, дзе месцілася рэдакцыя «НН». Перад яго прыходам на лесвіцы бачылі дзіўнага чалавека з палачкай. Пасля ідавочцы сышліся, што гэта быў Ігнатовіч.

І ў Расіі, і ў Беларусі арганізацыя спыніла сваю актыўнасць у 2000-х.

**РАДЫЁ «СВАБОДА»**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 23.12.11
Тыраж 299 экзэмпляраў